№ 7 (152)

# ПАХОДНЯ

Грамадска-палітычная газета

Ліпень 2013 г.

## КАЛОНКА НАВІН

### У краіне

Майское сальдо торговли товарами снова отрицательное, а экспорт в ЕС сократился вдвое.

В Беларуси сальдо внешней торговли товарами в мае снова оказалось отрицательным и составило $372,9 млн. С начала года отрицательное сальдо превысило $1,39 млрд. Об этом сообщает Белстат в оперативном отчете о внешней торговле.

По сравнению с январем — маем 2012 года белорусский экспорт упал на 24,2%, или на $5,12 млрд. При этом импорт снизился на 10,9%, или на $2,12 млрд.

### У Прыдняпроўі

По итогам работы за январь-май 2013 года номинальная начисленная среднемесячная заработная плата по Могилевской области составила Br4209,1 тыс., в мае – Br4482,5 тыс. (516,1$). Темп ее роста к соответствующим периодам 2012 года - 146,3% и 137,3% соответственно.

Темп роста реальной заработной платы по региону в январе-мае 2013 года к январю-маю 2012 года составил 120,2%, в мае – 114,7%.

### У раёне

В агрогородок Вишов Белыничского района на две недели приехали 10 именитых художников из Беларуси, России, Украины.

Во второй раз пленэр для них организовал СПК “Родина”. Хозяйство решило создать свою художественную галерею и разместить в ней пейзажи маслом на холстах, а также портреты тружеников села, которые немало сделали для развития сельхозпредприятия. Для этих целей пригласили ведущих мастеров кисти. Владимир Уроднич, Леонид Гомонов, Евгений Чистов, Игорь Бархатков... Имена этих и других живописцев известны далеко за пределами бывшего Советского Союза. А сегодня они на своих полотнах увековечивают красоту населенных пунктов СПК “Родина” Белыничского района.

## В БЕЛЫНИЧСКОМ РАЙИСПОЛКОМЕ ВЫЯВЛЕНЫ МНОГОЧИСЛЕННЫЕ НАРУШЕНИЯ

***Комитетом государственного контроля Могилевской области проведена проверка Белыничского районного исполнительного комитета.***




Выявлены нарушения законодательства при распоряжении государственным имуществом, в том числе изъятии и предоставлении земельных участков, выдаче бюджетных ссуд, предоставлении государственной статистической и ведомственной отчетности, осуществлении административных процедур, работе с обращениями граждан, ведении учета бланков строгой отчетности, эксплуатации зданий и транспортных средств, обращении с отходами, расходовании бюджетных средств, содержании земель общего пользования.

По результатам проверки Комитетом в установленном порядке рассматривается вопрос о привлечении райисполкома и его должностных лиц к административной ответственности, принимаются меры по привлечению нарушителей к дисциплинарной ответственности, сообщают специалисты КГК.

Напомним, что именно должностные лица Белыничского райисполкома постоянно отчитывают руководителей и специалистов предприятий и организаций нашего района за плохую работу. Может быть, им лучше на себя в зеркало посмотреть? Проверка КГК наглядно показала, что нарушений в работе у доблестных белыничских “слуг народа” просто “выше крыши”…

***Сергей Семенович.***

## ДОМ ДЛЯ ШМАТДЗЕТНЫХ СЕМ’ЯЎ ПАКУЛЬ СТАІЦЬ ЗАЧЫНЕНЫ

Як і пісала раней газета “Паходня”, напрыканцы чэрвеня будаўнікі Бялыніцкай ПМК-241 здалі ў эксплуатацыю дом для шматдзетных сем’яў у гарадскім пасёлку Бялынічы.

Аднак нейкай яснасці ў пытанні, ці сапраўды ў гэтым доме будуць жыць шматдзетныя сем’і, пакуль няма. На момант падпісання нумара газеты ў друк ні адна з шматдзетных сямей не атрымала ключы ад уласных кватэр, бо канчаткова пакуль ня вырашана, на якіх умовах будзе пракрэдытаваны канчатковы кошт будаўніцтва дома.

Між тым ужо ў ліпені бялыніцкія шматдзетныя сем’і павінны пачаць плаціць выплаты па крэдытах за будаўніцтва дома…

Адзінае, чаго пакуль здолелі дабіцца шматдзетныя бацькі – гэта тое, што кошт квадратнага метра ў пабудуваным доме ўсё ж крыху зменшыўся – з васьмі мільёнаў да сямі з паловай мільёнаў рублёў.

Сярод бялынічанаў таксама ходзяць размовы пра тое, што кватэры ў пабудаваным доме наогул могуць не патрапіць да шматдзетных сем’яў.

*(Заканчэнне на стар. 3)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# НАШ ЗЕМЛЯК НАХОДИТСЯ В БОЛЬНИЦЕ



Президент Беларуси Александр Лукашенко в середине июля освободил Виктора Каменкова от должности председателя и судьи Высшего хозяйственного суда.

Причину отставки официальные белорусские СМИ не сообщили.

Виктор Каменков занимал данную должность с октября 2001 года. В 2006 году его избрали председателем Белорусского союза юристов. В мае 2013 вместе с вице-премьером Петром Прокоповичем Виктор Каменков возглавил Совет предотвращения банкротства.

Напомним, что родился Виктор Каменков 29 марта 1956 года в д. Мокровичи Белыничского района Могилевской области.

После окончания в 1978 году юридического факультета Белорусского государственного университета работал стажером прокуратуры, помощником прокурора Октябрьского района, заместителем прокурора Ленинского района г. Могилева, старшим помощником прокурора Могилевской области.

Газета "Народная Воля" разыскала Виктора Каменкова в одном из отделений Республиканской клинической больницы медицинской реабилитации в Аксаковщине.

Выслушав вопрос о том, что его освобождение от должности уже успело обрасти самыми разными слухами, он ответил: "Извините, мне сейчас совсем не до этого..."

Неожиданный указ А.Лукашенко об освобождении от должности председателя Высшего Хозяйственного суда Беларуси Виктора Каменкова вызвал немало разговоров. Тем более что никаких официальных объяснений или пояснений не последовало. В марте Каменкову исполнилось всего 57 лет, казалось бы, еще работать и работать! Тот же Валентин Сукало и в 71 год руководит Верховным судом...

Каменков никогда не бегал от журналистов, отвечал на вопросы и, несмотря на то, что входил в список высших должностных лиц страны, сам поднимал городской телефон. К тому же Каменков был, наверное, единственным председателем суда, который на официальном сайте ВХС вел свой блог. Записи обновлялись не каждый день, и революционных призывов там не было, но какие-то интересные комментарии или цитаты время от времени появлялись. Сейчас эта страница на сайте ВХС уже отсутствует.

У Каменкова осталась общественная нагрузка — он по-прежнему является председателем Белорусской федерации баскетбола. А еще Виктор Сергеевич заведует кафедрой финансового права и правового регулирования хозяйственной деятельности в БГУ. На кафедре сегодня говорят, что Каменков — на больничном.

***Собственная информация.***

# ЦІХАЯ КАТАСТРОФА

***На фоне скандалу вакол конкурсу «Міс Менск» практычна незаўважанай прайшла куды больш значная і шакавальная навіна, піша Вадзім Ліўнеў у інтэрнэт-газеце "Салідарнасць"***

Як паведаміў БелТА дырэктар Рэспубліканскага інстытута кантролю ведаў Міністэрства адукацыі Беларусі Мікалай Фяськоў, каля 32,7% удзельнікаў цэнтралізаванага тэставання па матэматыцы атрымалі адзнакі 15 балаў і ніжэй. ТРЭЦЬ!

Крыху пазней стала вядома, што з фізікай справы ідуць яшчэ весялей. Там аналагічны вынік паказалі 37% удзельнікаў тэставання.

І гэта не нейкі разавы правал. Больш за тое, Мінадукацыі адзначае «некаторае паляпшэнне вынікаў ЦТ па матэматыцы ў параўнанні з леташнімі».

Між тым, у атэстатах аб сярэдняй адукацыі днём з агнём не адшукаеш адзінак і двоек. Па сутнасці, гэта сведчыць, што сістэма ацэнкі ў сярэдняй школе пабудаваная на фальсіфікацыях. Нядзіўна, што некаторыя настаўнікі кажуць: «Напэўна, чыноўнікі зразумеюць, што ў адукацыі ёсць праблемы, калі будуць разбурацца масты, пабудаваныя выпускнікамі ВНУ, якія спачатку прайшлі школу, затым універсітэт і ўсюды атрымлівалі ацэнкі без ведаў», - выказвае меркаванне Вадзім Ліўнеў.

Так, частка патэнцыйных «шкоднікаў» адсеялася па выніках тэставання. Але далёка не ўсе: бо, каб працягнуць прэтэндаваць на месца ў ВНУ, дастаткова пераадолець вельмі сціплы парог у 15 балаў з 100 магчымых.

Газета "Паходня" у мінулым месяцы ўжо выказвала сваё меркаванне наконт вельмі нізкага ўзроўня сярэдняй адукацыі ў нашай краіне. На жаль, нашы высновы спраўджваюцца, што ў чарговы раз паказалі вынікі цэнтралізаванага тэставання.

Ні для каго не сакрэт, што сярэдні балл атэстата выпускнікоў школ і вынікі тэставання – гэта абсалютна розныя рэчы. Прычым большасць бялынічан выдатна разумее, чаму так адбываецца. Таму, тыя людзі, якія хочуць, каб іх дзіця паступіла ў нармальны ВУЗ, ужо за некалькі год да заканчэння школы пачынаюць наймаць яму рэпетытараў і плаціць за гэта вялікія грошы, бо школа нармальнага ўзроўню ведаў чамусьці

*(Заканчэнне на стар. 3)*

# БУДЕМ ПИТЬ МИНЕРАЛКУ С АРОМАТИЗАТОРАМИ

***Цех по розливу питьевой и минеральной воды ОАО “Новая Друть” освоил выпуск напитка на основе минеральной воды с натуральными ароматизаторами. Об этом сообщил БЕЛТА начальник цеха Сергей Васьковский.***

“Мы одни из первых в Беларуси освоили данную технологию и получили в итоге минеральную воду с легким тонизирующим вкусом, способную быстро утолить жажду. В ней нет ни сахара, ни красителей, ни каких-либо других вкусовых добавок, кроме специальных натуральных пищевых ароматизаторов. Это придает нашей воде тонкий оригинальный вкус, к тому же она не теряет своих лечебных качеств”, -рассказал Сергей Васьковский корреспонденту БЕЛТА.

Пока в цеху разливают только три наименования воды с натуральными ароматизаторами: со вкусом лимона, изабеллы и грейпфрута. Но в перспективе здесь планируют значительно расширить ассортимент, поскольку эта вода пользуется сегодня большой популярностью у потребителей Минска, Могилева, Гомеля, Витебска и других населенных пунктов Беларуси. К летнему сезону в цеху также освоили выпуск безалкогольных напитков на подсластителях: со вкусом кваса и меда, “Буратино”, “Тархун”, “Крем-сода”, а к сентябрю эта линейка расширится за счет выпуска еще девяти новых наименований.

В планах работников цеха освоение в этом году более сложных по технологии напитков с использованием сахара и выпуска натурального техтинского кваса.

На сегодняшний день в “Новой Друти” разливается из собственной скважины ежемесячно более 200 т питьевой и минеральной воды в ПЭТ-бутылки емкостью от 0,5 л до 18,9 л.

***По материалу БЕЛТА.***

# ЦІХАЯ КАТАСТРОФА

*(Заканч. Пачатак на стар. 2)*




даць не можа. Прычым рэпетытарамі падпрацоўваюць тыя ж самыя настаўнікі з бялыніцкіх школаў… Чаму так адбываецца – гэта ўжо іншае пытанне.

Настаўнікі лічаць, што зараз дзеці вельмі дрэнныя, вучыцца не хочуць, і на бедных педагогаў вельмі высокая нагрузка. Бацькі кажуць зусім іншае, наракаючы на нізкую якасць выкладання прадметаў з боку настаўнікаў. Хто тут мае рацыю, вырашаць вам, шаноўныя чытачы.

Нізкі ўзровень ведаў абітурыенты паказваюць не толькі ў матэматыцы і фізіцы. Што казаць пра дакладныя прадметы, калі нават на ЦТ па гісторыі амаль 14% абітурыентаў не змаглі набраць мінімальны прахадны бал…

Застаецца толькі нагадаць, што нагрузка на аднаго настаўніка ў нашай краіне ў 2012/2013 навучальным годзе складала 8,6 вучняў. У “праклятых буржуінаў” у ЕС і ў Расіі нагрузка на аднаго настаўніка складае 15 вучняў, аднак вынікі працэсу навучання ў гэтых краінах чамусьці атрымоўваюцца нашмат лепшыя.

Ну а пра нагрузку на настаўнікаў у вясковых школах Бялыніцкага раёна мы ўжо пісалі – з кожным годам вучняў становіцца ўсё менш і менш, аднак настаўнікам усё роўна працаваць вельмі цяжка…

***Вікторыя Бялова.***

## АФРЫКАНСКАЯ ЧУМА СВІНЕЙ РАСПАЎСЮДЗІЛАСЯ ВА ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ

У гэтым упэўнены кіраўнік літоўскай ветэрынарна-харчовай службы Літвы Ёнас Мілюс.

Сітуацыю ў Беларусі ў сувязі з успышкай афрыканскай чумы свіней літоўскі чыноўнік назваў некіруемай.

«Сітуацыю, якая стварылася ў суседняй краіне, мы ацэньваем як пагрозлівую і практычна некіруемую», - заявіў ён сёння журналістам, паведамляе ІТАР-ТАСС.

Кіраўнік ветэрынарнай службы нагадаў, што першыя прыкметы інфекцыі былі выяўленыя на мінулым тыдні ў Гарадзенскай вобласці ў 30 км ад мяжы з Літвой, новыя зафіксаваныя ў Віцебскай вобласці ля мяжы з Латвіяй. «Паміж двума крыніцамі інфекцыі значная адлегласць, а гэта можа азначаць, што эпідэмія распаўсюдзілася на ўсёй тэрыторыі Беларусі», - выказаў здагадку Мілюс.

## ДОМ ДЛЯ ШМАТДЗЕТНЫХ СЕМ’ЯЎ ПАКУЛЬ СТАІЦЬ ЗАЧЫНЕНЫ

*(Заканч. Пачатак на стар. 1)*

Маўляў, разглядаецца пытанне пра тое, каб іх выставіць на продаж, як камерцыйнае жыллё, альбо перадаць чаргавікам з частковай аплатай з дапамогай ільготных і не ільготных крэдытаў.

У Бялыніцкім райвыканкаме гэту інфармацыю не спраўджваюць, кажуць, што пытанне далейшага лёсу шматпакутнага дома для шматдзетных сем’яў будзе вызначана пасля таго, як свае высновы зробіць камісія, створаная са спецыялістаў Савета міністраў і Адміністрацыі кіраўніка краіны.

Пакуль жа атрымліваецца так, што шматдзетныя сем’і ў Бялынічах па-ранейшаму знаходзяцца ў падвешаным стане, нягледзячы на грозныя выказванні Аляксандра Лукашэнкі.

Мы абавязкова вернемся да асвятлення гэтай тэмы.

***Багдан Іваноў.***

### Анекдот дня

Один учитель жалуется другому:

- Ну и класс мне попал тупой. Объясняю им теорему - не понимают. Второй раз объясняю - не понимают. Третий раз объясняю - сам понял, а они все равно не понимают...

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# З БНФ ЁСЦЬ БУДУЧЫНЯ Ў БЕЛАРУСІ!

***20 год таму назад III з'ездам Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" было прынята рашэнне аб утварэнні Партыі БНФ. З'езд праходзіў 29-30 мая 1993 года ў тэатры імя Янкі Купалы ў Мінску.***




Дэлегаты з'езда падтрымалі прапанову кіраўніцтва і прагаласавалі за стварэнне Партыі БНФ. На той час сярод некаторых сяброў ГА БНФ "Адраджэньне", сярод яго прыхільнікаў нярэдка ўзнікалі спрэчныя меркаванні аб неабходнасці стварэння партыі. Падобныя спрэчкі аб правільнасці або памылковасці тагачаснага рашэння ўзнікаюць зрэдку і зараз, і, нават, сярод некаторых прадстаўнікоў былога кіраўніцтва грамадскага аб'яднання і Партыі БНФ розных часоў. Некаторыя з іх бачаць у рашэнні III з'езда БНФ аб стварэнні партыі звычайнае фармальнае, канцылярскае рашэнне.

Адным з аргументаў неабходнасці стварэння партыі з'явілася на той момант прынятае Вярхоўным Саветам новае заканадаўства аб выбарах, якое прадугледжвала права ўдзелу ў выбарах толькі для палітычных партый. Грамадскія аб'яднанні, арганізацыі, рухі, згодна новага заканадаўства, пазбаўляліся такога права.

Немалаважным аргументам на карысць ідэі стварэння Партыі БНФ з'яўлялася яшчэ і існаванне ў краіне шэрагу іншых партый, як Сацыялдэмакратычная, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі. Адбываліся падрыхтоўчыя працэсы па стварэнню новых. Існуючыя і новастварaемыя партыі фармаваліся як палітычныя арганізацыі з яскрава і канкрэтна пазначанай ідэялогіяй, ад ліберальнай да сацыял-дэмакратычнай.

Шматлікія сябры існуючых і ствараемых партый з'яўляліся адначасова і сябрамі ГА БНФ "Адраджэньне", уваходзілі ў кіруючыя ворганы як у цэнтры, так і ў рэгіянальных структурах. Не ўлічваць гэтыя працэсы было немагчыма.

Створаная напрыканцы мая 1993 года Партыя БНФ узнікла на аснове шырокага агульнанацыянальнага дэмакратычнага руху, яна ўнаследавала агучаныя ў 1988 годзе, пры заснаванні Беларускага Народнага Фронта як грамадскага аб'яднання, лозунгі і мэты — незалежнасць, дэмакратызацыя, адраджэнне беларускай мовы і культуры. Партыя выступіла за еўрапейскі шлях развіцця Беларусі.

За амаль чвэрць стагоддзя, што існуе БНФ, сябрамі арганізацыі падрыхтаваны праграмы рэфармавання ўсіх галін жыцця краіны.

Як паказаў час, Партыя БНФ застаецца партыяй каштоўнасцей, яна, як і раней, найбольш адказна ставіцца да абароны нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Нягледзечы на складаныя часы для палітычнай дзейнасці, партыя глядзіць у будучыню з аптымізмам.

Сябры арганізацыі, нярэдка падвяргаючыся рэпрэсіям, праследу з боку ўладных і сілавых структураў, самаахвярна працуюць па ўсёй краіне, з'яўляюцца прыкладам для ўсяго беларускага грамадства.

Менавіта заснаванне арганізацыі на грунце нацыянальных інтарэсаў дазволіла партыі прайсці за 20 год існавання шматлікія выпрабаванні з мінімальнымі стратамі.

Ні рэпрэсіі, ні праслед, ні інфармацыйная ізаляцыя, ні існуючы ў грамадстве страх не вымушылі беларускае грамадства адвярнуцца аб Беларускага Народнага Фронта.

Як сведчаць вынікі апошніх апытанняў Незалежнага інстытута сацыяльна-эканамічных і палітычных даследванняў, рэйтынгі падтрымкі і вядомасці БНФ у грамадстве самыя высокія сярод іншых палітычных арганізацый. БНФ абыходзіць на сёння па гэтых паказчыках і праўладную "Белую Русь", для дзейнасці якой у краіне беларускімі ўладамі створаны самыя спрыяльныя ўмовы.

Беларускія грамадзяне бачаць, што БНФ — гэта сапраўды народная партыя, якая адстойвае народныя і нацыянальныя інтарэсы як на дзяржаўным, так і на мясцовым узроўнях.

У Беларускага Народнага Фронта ёсць будучыня на Беларусі. А з БНФ ёсць будучыня і ў Беларусі.

***Рыгор Кастусёў, намеснік старшыні Партыі БНФ.***

## ВОРУЮТ…

26 июня Следственным комитетом возбуждено уголовное дело по ст. 205 ч. 1 УК (Кража) по отношению администрации СПК «Кудин» о том, что в период с апреля по 26 июня с территории мехдвора в д. Малый Кудин похищены 15 грузов с противовеса от трактора на общую сумму 11,9 млн руб. ОУР установлено, что преступление совершили неработающие несудимые жители указанной деревни 1994 г.р. и 1974 г.р. Задержаны в порядке ст. 108 УПК, сообщает uvd.mogilev.by.

Кражи разнообразных металлических изделий стали настоящим бедствием для Белыничского района...

# БАГДАНКЕВІЧ: КУРС ДАЛЯРА ДА КАНЦА ГОДА БУДЗЕ МІНІМУМ 9.500

Курс даляра да канца года будзе не меншым за 9.500 рублёў. Такі прагноз падчас сустрэчы з журналістамі 2 ліпеня зрабіў экс-кіраўнік Нацбанка Станіслаў Багданкевіч.

Ён зазначыў, што ў 2012 годзе стабільны курс даляра ўдалося забяспечыць дзякуючы станоўчаму сальда ў знешнім гандлі. «Магчымасці трымаць курс былі. Летась гандаль быў збалансаваным, гэта значыць мы куплялі тавараў столькі, колькі мелі грошай. Таму курс мог стаяць», — сказаў Багданкевіч.

Сёлета, зазначыў экс-кіраўнік Нацбанка, сітуацыя кардынальна змянілася: «Па выніках паўгоддзя мы выйдзем з дэфіцытам гандлёвага і плацежнага балансу».

Згодна з данымі, якія распаўсюдзіў у пачатку ліпеня Нацыянальны статыстычны камітэт, у студзені-маі адмоўнае сальда знешняга гандлю таварамі склала амаль 1,4 млрд. даляраў (у аналагічны леташні перыяд сальда было станоўчым і складала 1,6 млрд. долараў).

«Дэвальвацыя вялая будзе, курс [долара] ужо пайшоў, пачалі яго адпускаць», — зазначыў Багданкевіч, каментуючы змяненні каціровак на валютным рынку. Як паведамлялася раней, 2 ліпеня афіцыйны курс даляра дасягнуў максімальнага значэння сёлета і склаў 8.810 рублёў.

«Я думаю, эканоміка прымусіць пайсці на дэвальвацыю, — мяркуе Багданкевіч.

— Курс даляра да канца года будзе мінімум 9.500 рублёў». На яго думку, дэвальвацыя патрэбная і для стымулявання беларускага экспарту, і для абмежавання імпарту.

Між тым беларускія эканамічныя ўлады чакаюць, што сярэднегадавы курс даляра на ўзроўні 9.500 рублёў складзецца пазней, у 2014 годзе. Паводле інфармацыі БелаПАН, такая ацэнка прыводзіцца ў канцэпцыі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны на наступны год.



*Станіслаў Багданкевіч*

Пры падрыхтоўцы бюджэту на 2013 год улады заклалі сярэднегадавы курс долара на ўзроўні 8.950 рублёў за долар. Такім чынам, паводле ацэнак уладаў, у наступным годзе дэвальвацыя нацыянальнай валюты складзе каля 6%.

*БелаПАН*

# САМА СКРОМНОСТЬ

***Александр Лукашенко призвал накануне подчиненных вести более скромный образ жизни. При этом сам он предпочитает отдыхать с размахом, носит дорогущие часы и имеет в своем гараже шикарный Maybach.***



*Александр Лукашенко*

Мы постоянно оказываем и будем оказывать жесткое, колоссальное давление на государственный аппарат, на чиновников, заставляя их служить людям, не брать чужого и вести скромный образ жизни", – заявил Лукашенко 1 июля на торжественном собрании по случаю так называемого "дня независимости".

При этом сам Лукашенко отнюдь не аскет. "Салідарнасць" решила напомнить лишь некоторые наиболее известные общественности примеры, которые демонстрируют, от чего сам Лукашенко не готов отказаться в пользу "скромного образа жизни".

Не отказался он от поездок на дорогие курорты, например, в швейцарские Альпы по приглашению президента тамошнего НОК и за счет австрийского бюджета в 2002 году. В 2010 году известный австрийский журналист Эрвин Рот опубликовал квитанции, согласно которым отдых делегации из Беларуси потянул на 200 тысяч евро.

Не отказался от дорогих часов. Президент США Барак Обама почему-то обходится часами за 325 долларов. А вот Лукашенко носит швейцарские Patek Philippe Calatrava 5120j почти за 17 тысяч долларов, которые стоят больше восьми его официальных зарплат.

Не отказался от шикарного авто, полученного от неизвестного общественности дарителя. На вопрос журналистов о новом автомобиле Лукашенко ответил: "Откровенно говоря, мне на день рождения один российский человек подарил Maybach".

Не отказался от резиденции в Сочи на территории санатория «Беларусь». Чтобы "зачистить" пространство для его отдыха, были переселены десятки российских граждан.

Не отказался от самолета Boeing-767,

*(Окончание на стр. 8)*

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

# ПОЧЕМУ МЫ НЕ СТАЛИ РУССКИМИ?

***Сегодня с полной уверенностью можно утверждать, что у двухвековой компании по русификации белорусских земель полный провал!***

***Из поколения в поколение воспитываясь по-русски, на образцах русской истории и литературы, в русскоязычной государственной и общественной системе, мы так и не стали людьми русской культуры, русской метафизической природы. Если бы это произошло, то, может быть, индивидуально мы и не чувствовали бы себя ущемленными: меньшими, младшими, вторыми – то есть униженными. Просто одну свою национальность и человеческую полноценность мы сменили бы на другую, и уже во втором поколении «швы» бы разгладились. Белорусская культура стала бы приобретением только работников науки, как латынь или античность. Но этого не произошло. Русскими мы не стали.***

И дело здесь не в сопротивлении народа, который в массе своей особенно и не сопротивлялся и часто, хоть и не вполне осознанно, так и называл себя  - русским. Дело и не в слабом напоре русификации – вся идеологическая машина российской империи и Советского Союза, весь государственный аппарат жестко пресекали не национализм даже, а любое национальное проявление.

Дело в другом. Суть его, между прочим, изложена в забытой книге Н.Ланской (Надежды Владимировны Яковлевой), которая так и называется – «Обрусители», которая вышла в свет в Петербурге ещё в 1880 году и была переиздана в последующие годы. В то время книга издана официально, хотя многие авторы в то время, за подобные обличения могли заплатить свободой и жизнью. Это можно объяснить, что в 80-е годы петербургских либералов захватила чуть ли не мода посмеиваться над Муравьёвым и чиновниками-обрусителями рьяно и тупо взявшихся за внедрение на Беларуси русской идеи.



Итак, в начале 1860-х годов на Беларуси проводилась известная реформа, началась и закончилась восстание 1863-64 годов, сотни участников которого погибли, а многие тысячи были высланы либо подались в эмиграцию. Одновремённо происходил ещё один, возможнее, менее известный, но не менее грандиозный процесс. Население края в результате восстания и его подавления не уменьшалось, а наоборот, росло, как на дрожжах. То есть, если до 1851 года за 13 лет оно увеличилось на 17 тысяч, то за следующие 12 лет – на 675,5 тысяч (данные БелСЭ). Цифры впечатляют, но ещё более впечатляет качество этого потока, о котором в «Обрусителях» пишет Ланская: «Посредник Лупинский приехал в западный край как раз вовремя. Несколько лет тому назад западный край был центром, куда стекалось великое множество людей великорусского происхождения преимущественно и православного исповедования непременно. В то время край представлял собой арену, где, не рискуя ничем, можно было тысячу раз отличится, выйти, что называется, в люди и затем, успокоившись на лаврах, произнести со спокойной совестью: мы обрусили. Сюда стремились се те, кто был чем-либо не доволен у себя дома: всякий, кого обошли чином, местом или наградой, чьё имение пришло в упадок, а приняться за дело не было ни уменья, ни сил – все это спешило в западный край. Это был пир, на который шли все те, кому нечего было терять, у кого ничего не осталось за душой дома. Здесь можно было только выиграть, там уж нечего было проигрывать. Находчивым и смелым людям тут было раздолье; тут можно было сделаться помещиком без гроша; не купив леса, выгодно продать его, совершив какую угодно сделку, назваться чьим угодно именем…

Можно представить, какая масса разной дряни наводнила собой эти несчастные 9 губерний! Как саранча, бросились они на готовые места, торопясь захватить все то пространство, которое было для них насильственным образом очищено; церемониться было ни к чему, и под видом обрусения и пропаганды православия эти завоеватели преследовали такие цели, которые не имели ничего общего ни с религией, ни с нравственностью, ни даже с политикой действительного обрусения…»

*(Продолжение на стр. 7)*

# ПОЧЕМУ МЫ НЕ СТАЛИ РУССКИМИ?

*(Продолж. Начало на стр. 6)*

По Ланской выходит, что Беларусь после реформы 1861 года и восстания 1863-64 годов, давшего повод к дискредитации и изгнанию прежних, нерусских панов и их администрации, напоминала Клондайк, золотой прииск. Правда – разработанный прииск, готовое место. И если на Клондайк ехали отважные авантюристы, то тут отваги не требовалось, сюда ехали мародеры.

Наплывшая из России с единственной целью – напихать себе карманы – и не имея абсолютно ничего сдерживающего, вся эта орава чиновников, полицейских, посредников, учителей, а то просто офицеров тех бесчисленных жандармских и казачьих постоев, которые тучей покрыли после восстания «умиротворенную» Беларусь, - внесла в край необычный нравственный распад, осквернила жизнь в самых основах.

Ланская весьма критично описывает состояние края. Заметим – не своего края. Взгляд её поверхностен, как если бы она с той же, свойственной ей критичностью, писала о Грузии или Дальнем Востоке. «Леса, например, этот клад, который на западе берегут как зеницу ока, - уничтожаются в уезде самым варварским образом». Или вот – о Припяти, на которой стоим Мозырь: «У людей предприимчивых эта река принесла бы миллионы, но у нас она год от году мелеет… Река – это краса, это богатство края – пропадает даром…»

Наконец, ещё один важнейший фактор обрусительства – присутствие российской армии на Беларуси. Автор пишет, число российского войска на Беларуси возросло в ту эпоху до необычайных размеров. В начале 80-х годов здесь было уже около десятка окружных военных управлений разных типов, штаб армейского корпуса, артиллерийская бригада, четыре пехотных полка, кавалерийская дивизия, саперный батальон, полевой жандармский эскадрон ит. д. - огромное количество войск, словно крепость в западном секторе империи.

Вызывать войска из центра государства, как это было во время восстания для его удушения, в случае чего не приходилось: «Северо-Западный край» мог с избытком одолжить этой силы для придушения беспорядков в столицах.

В книге описываются конкретные люди и их обычные частные события. Многое звучит по-прежнему злободневно («… получая 7 р. 51 коп. в месяц, ухитрился выстроить два дома).

Глядя из России, это была банальная аннексия, когда одна империя получила свою долю в результате раздела Речи Посполитой. Глядя из Беларуси – это была оккупация, вызвавшая три антироссийских восстания. Единственное, что мешает сегодня согласится с этим юридически точным определением – то, что у этой оккупации не было и до сих пор нет конца.

Видя и зная характер этого нашествия, можно ли допустить, что было «освобождение» или «воссоединение с Россией», как толковала нам прежняя пропаганда? Можно ли говорить о каких-то благотворительных плодах этого нашествия, как, впрочем, и всех последующих административных нашествий с «большой земли»?

В сущности, ответом на эти вопросы и будет то, почему мы так и не стали русскими. Потому что вместо русской природы, языка, культуры нам предлагалась природа, язык и культура чиновнические.

Книга, написанная во второй половине 19 века, по-прежнему актуально и в наше время. Мы так и не почувствовали ничего русского в себе, называя этим словом лишь цепь своей зависимости от системы, а не пуповину, которая могла бы связать нас с национальной жизнью соседнее страны. За двести лет мы так и не дали ни одного выдающегося явления русской культуры, литературы, гуманитарной науки.

Характеристики Ланской точны и универсальны для всех последующих администраций. Ехали в Беларусь из России и деятели культуры. Лучшие из них сразу же интегрировались в белорусскую стихию (горецкая профессура, литераторы Замотин, Вознесенский, искусствовед Щекотихин и многие другие). Худшие становились чиновниками аппарата. Настоящими проводниками русификации стали люди, пожалуй, без исключения малокультурные, неинтеллигентные, бездуховные. Они и сами уже не были русскими, а лишь «с южным типом лица», как пишет о них Ланская.

Самосохранение нации, видится мне в одном довольно распространенном у нас явлении – когда какой-нибудь ответственный работник тайком от райкома, от начальства, от сослуживцев, но в согласии с родней и внутренней своей природой, вез свое новорожденное дитя – к попу.

***Книгу изучал Александр Грудино.***

## АЛЕСЬ БЯЛЯЦКІ: “А ВОСЬ З МОВАЮ – БЯДА”

Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч 28 чэрвеня атрымаў ліст ад палітвязня, кіраўніка Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага.

Палітвязень падзяліўся сваімі развагамі наконт навінаў з жыцця дэмакратычнай суполкі Магілёўскай вобласці, а таксама распавёў пра сваё жыццё ў бабруйскай калоніі.

“Улетку добра не толькі на волі, але і тут не пагана, - піша Алесь Бяляцкі. – Часу вольнага ў мяне няшмат, але я не бядую, так ён хутчэй пралятае, ды і я яшчэ імкнуся штосьці зрабіць карыснага. Вельмі мяне цешыць, што ідзе актыўнае вяртанне і засваеньне нашай гісторыі. Вось і замак у Быхаве хоць троху давядуць да ладу. А вось з моваю – бяда. І тут трэба ўпірацца, колькі ёсць сілаў” – выказаў меркаванне Алесь Бяляцкі.

Нагадаем, што зараз у месцах зняволення ў нашай краіне знаходзяцца дзесяць асобаў, якія прызнаныя праваабарончымі арганізацыямі палітвязнямі. У сталай перапісцы з імі знаходзяцца бялыніцкія актывісты кампаніі “Гавары праўду”.

***Вераніка Бялова.***

## АКТЫВІСТЫ “ГАВАРЫ ПРАЎДУ” ЗЛАДЗІЛІ ТРАДЫЦЫЙНЫ КУПАЛЬСКІ ЛЕТНІК У БЯЛЫНІЦКІМ РАЁНЕ

***Бялыніцкія актывісты «Гавары праўду» зладзілі правядзенне традыцыйнага купальскага летніка ў маляўнічым месцы каля ракі Друць.***

Ініцыятарамі і арганізатарамі святкавання Купалля ў Бялыніцкім раёне вось ужо на працягу шэрагу гадоў выступаюць мясцовыя актывісты «Гавары праўду» і рупліўцы на ніве беларускага нацыянальнага адраджэння Алег і Мікалай Мяцеліцы, а таксама мясцовы прадпрымальнік Сяргей Рашчукоў.

Апошнія два гады арганізацыі святкавання Купалля ў Бялыніцкім раёне моцна перашкаджалі мясцовыя ўлады і праваахоўныя органы. У 2011 годзе, каб перашкодзіць арганізаваць святкаванне ва ўрочышчы Гута, улады нават задзейнічалі магілёўскі АМАП. Дзясяткі актывістаў атрымалі штрафы за нібыта адміністрацыйныя правапарушэнні.

Каб папярэдзіць працідзеянне з боку ўладаў, сёлета арганізатары крыху перасунулі тэрмін правядзення свята. Купальскі летнік пачаў дзейнічаць з 27 чэрвеня, ну а асноўныя святочныя мерапрыемствы прайшлі ў суботу і нядзелю 29-30 чэрвеня.

Усяго ў святкаванні Купалля прыняло ўдзел некалькі дзесяткаў чалавек.

***Іван Барысаў.***

## АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ: ВАЕННАЯ БАЗА – ВЯЛІКАЯ НЕБЯСПЕКА ДЛЯ КРАІНЫ

Эканамічная залежнасць прыводзіць да залежнасці палітычнай, ваеннай і іншых. І гэта адна з асноўных прычын таго, што ў Беларусі можа з’явіцца расійская ваенная база.

Чужая ваенная база – адна з самых вялікіх небяспек для суверэнітэту краіны, лічыць старшыня Руху “За Свабоду” Аляксандр Мілінкевіч:

“Беларусь гэта краіна, якая абвясціла нейтральны статус. Уваходжанне ў ваенныя блокі – гэта парушэнне Канстытуцыі. І калі запытаць, то большасць беларусаў не хочуць ні ў НАТО, ні ў ваенныя саюзы з Расіяй. А наяўнасць базы – гэта самы лепшы спосаб кіраваць унутранай сітуацыяй. Я не кажу пра вайсковае ўмяшальніцтва, я кажу пра тое, што калі база паўстае, то пазбавіцца яе потым, нягледзячы нават на нейтральны статус, практычна немагчыма. А база гэта заўсёды мішэнь у магчымых ваенных канфліктах.

Таму гэтая база – адна з самых




вялікіх небяспек для краіны. Тое, што сёння ўладзе, каб утрымаць эканоміку ад вялікага крызісу, трэба аддаваць такія рэчы, як ваенная небяспека, паказвае, што ўлада не спраўляецца з кіраўніцвам. Яна жыве адным днём і спрабуе проста выжыць. Але гэтае выжыванне даецца дарагім коштам – коштам будучыні нашай краіны, коштам будучыні нашых дзяцей”, – выказаў меркаванне Аляксандр Мілінкевіч.

## САМА СКРОМНОСТЬ

(Оконч. Начало на стр. 5)

который ранее принадлежал президенту Туркменистана и, по имеющейся информации, был куплен белорусской стороной за сумму порядка 100 миллионов долларов. Сообщается, что в самолете имеются «широкие белые кожаные сиденья и диваны, деревянная обшивка, золотые шторы», а в душевой использованы драгоценные металлы и камни.

Не отказался от новой гигантской резиденции, строительство которой началось в самый разгар валютно-финансового кризиса на проспекте Победителей, и находящейся на официально открытой 2 июля Площади государственного флага. А сам “скромный” Лукашенко планирует туда въехать в октябре.

И это только весьма “скромный” перечень того, от чего не отказался человек, призывающий других к скромному образу жизни.

***“Салідарнасць”***

## МОГИЛЕВЧАНКА РОДИЛА ДОЧЬ В СОБСТВЕННОЙ КВАРТИРЕ И ОСТАВИЛА ЕЁ УМИРАТЬ

Истекающую кровью 38-летнюю могилевчанку с диагнозом «послеродовое состояние» доставили в городскую больницу скорой медицинской помощи 30 июня. На расспросы медиков о ребёнке она упорно отвечала, что не рожала. Врачи вызвали сотрудников милиции, которые в квартире женщины наши мёртвую новорождённую девочку, завёрнутую в тряпки.

Как рассказала официальный представитель Следственного комитета РБ по Могилёвской области Оксана Соленюк, девочка родилась недоношенной – на 32-ой неделе. Вскрытие показала, что родилась малышка абсолютно здоровой.

ПАХОДНЯ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

Грамадска-палітычная газета. Выдаецца на беларускай і рускай мовах, распаўсюджваецца бясплатна. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем выдаўца газеты.

Адрас рэдакцыі: 213173, Бялыніцкі раён, аг-к Вялікая Машчаніца, вул. Савецкая, д. 4. Тэл. 8 (02232) 37-365. Выдавец Вырвіч Барыс Іванавіч. Наклад 299 асобнікаў. Надрукавана на ўласным абсталяванні. Падпісана ў друк 03.07. 2013 г. у 18-00.